# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ

№107

САКАВІК 2008г

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## СЛАЎНАЯ ГАДАВІНА

25 сакавіка сёлета спаўняецца 90 год абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, якое адбылося ў 1918 годзе ў Менску. Такім чынам была ўзноўлена традыцыя дзяржаўнасьці нашай Радзімы, склычаная палякамі і растаптаная расейскімі акупантамі.

У той векапомны год незалежнымі сталі і іншыя народы, якіх хціўыя і прагныя суседзі былі пазбавілі суверэннасьці: Літва, Латвія, Чэхаславаччына, Венгрыя, Польшча.

Нашаму народу не пашанцавала: расейскія камуністы і нямецкія акупанты дамовіліся здушыць нацыянальны беларускі рух. Потым немцаў зьмянілі палякі, якія і падзялілі Беларусь з Расеяй.

Нягледзячы на самаахвярнае змаганне беларусаў супраць камуністаў маскалі перамаглі. Але яны былі вымушаныя стварыць замест БНР сваю марыянетку- ССРБ- Савецкую сацыялістычную рэспубліку Беларусь, потым праз два месяцы яе ліквідавалі і ўжо пазьней усё ж зрабілі БССР, якая і праіснавала да 1991году. Беларусь ніколі не ратыфікавала дамову 1922 году аб стварэнні СССР, таму ў складзе СССР была незаконна. Але які заваёўнік дбае пра законы?!

Што б ні казала сённяшняя беларуская прапаганда, БНР была сацыялістычнай дзяржавай, з моцным сацыялістычным гуманістычным ухілам.

Застаецца пашкадаваць, што багата людзей яшчэ не ўсьведамляюць велічы справы, зьдзейсьненай нашымі продкамі 90 год таму.

Нашым дзецям пашэндзіла болей: яны вывучаюць гісторыю свайго краю і ведаюць яе значна лепей за бацькоў.

Сёлета патрыёты зьбіраліся ўрачыста і годна адзначыць юбілейную дату, але акупацыйны прамаскоўскі рэжым, як заўсёды, нагнаў легіёны салдат і сьпецміліцыі, якія і ўчынілі пабоішча сваіх суайчыннікаў на радасьць маскалям, нашым векавечным ворагам і ворагам рускага народу.

Ды марна гэта. Гісторыю нельга памяняць і справа, сьмела зьдзейсьненая нашымі продкамі не згасьне ў смузе часу. Што ж сталася з БНР? Юрыдычна яна йснуе па сёння і Старшынём Рады БНР зьяўляецца годная жанчына Івонка Сурвіла, якая годна прадстаўляе інтарэсы нашай нацыі на міжнародным роўні. (Як ведама, спадара Хакейнага Клюшку ніхто і нідзе ў прыстойным сьвеце не жадае бачыць). Спадарыня Івонка жыве ў Канадзе. А ў Раду БНР уваходзяць прыстойныя, разумныя і шанаваныя людзі.

Прыдзе час, і Рада БНР зьнікне, бо ў нас будзе не марыянеткавая неакаланіяльная краіна, а сапраўдная, дэмакратычная Беларусь.

Але застанецца памяць пра слаўны чын нашых продкаў.

СЛАВА НАШАЙ РАДЗІМЕ!

## ЗАНУДЗЕЛІ.

Мінуў слаўны мужчынскі фэст 23ці феўраля і жаноцкі 8 марца, а сельгасарбайтары ў Дуброве-Агры не дачакаліся панскай грашовай падачкі да гэтых абавязковых рытуальных дат.

Тымі часамі Гомельэнерга быў шчадрэйшы і сёе-тое падкідаў тутэйшым сельгасработнікам. Але сёлета традыцыя парушылася.

І нездарма. Для Гомельэнерга сельгаспрадпрыемствы - хамут на шыі. Калі 70% сельскай гаспадаркі нерэнтабельная, то хіба ж на ўсіх энергетыкі заробяць грошай? Тут толькі ў дамавіну пакладуць. Відаць, занудзелі прамыслоўцам жабракі калхозы .

А пазбыцца нельга.

## ГАРОТНЫ ЛЁС

Беларуская вёска цяжка перажывае апошнія свае гады.

Імкліва расьце колькасьць пустых хат. Сяляне старэюць і пакрысе пакідаюць гэты сьвет. Але пакідаюць па-рознаму.

Каму пашанцавала мець каля сябе дзяцей, таго дагледзяць і накормяць і абмыюць. Вунь як Галя Зайцава прыглядзела сваю матку Марусю.

Трохі іншая гісторыя з Кацярынай Куплёнчыхай. Некалі баявая баба з гаваркім языком састарэла за апошнія пару год і саўкалася, ледзь цягаючы ногі. З дзяцей дома быў нежанаты ненадзейны сын, які сам патрапіў у бальніцу. У дачкі ў Бабруйску старая з паганым характарам і старэчымі дзівосамі не ўжылася. Таму прывезьлі яе назад і саўкалася яна па Дуброве ўсякая, накормленая з ласкі людзей. Людзі спачувалі старой, шкадавалі яе, але ва ўсіх свае справы. Урэшце, пасмакаваўшы бяздомнага жыцця, яна прыцішэла і дачка забрала яе ізноў.

Гэта гісторыя з не надта паганым канцом. Але па сёлах жыве багата старых бацькоў, якім так трэба была б сямейная дапамога, а яе німа: ўсе ў горадзе. Аніякая сацыяльная служба не заменіць сына, дачку, унукаў...

І як памрэ вясковец, зьяжджаюцца дзеці, ўнукі на хаўтуры і зноў разьязджаюцца, пакідаючы аднаго старога ці старую да чарговых хаўтур.

А неўзабаве ўлада прышле бульдозер, каб плотна прыбраць селішча, каб і знаку і сьледу не засталося

Хіба мо крыж на могілках.

Да людзкой катастрофы давяла вёску савецкая ўлада.

## ПАСАДЫ ПА КУМАЎСТВУ.

Цяперашні войт Бабруйска гэта чалавек, прызначаны па рэкамендацыі сына беларускага дыктатара, сябрам дзяцінства якога ён зьяўляецца. Заступіўшы на пасаду, ён увесь час падкрэсьлюе, што сам ён чалавек вясковы і хоча жыць па-вясковаму.

Ну, калі ты хочаш жыць па-калхознаму, дык жыві ў калхозі і не лезь не ў сваю справу, не шыйся ў буйны прамысловы горад, бо гарадзкая гаспадарка і гарадзкая палітыка рэч складаная.

Маючы высокага заступніка гэны калхозьнік- войт запатрабаваў купіць яму адмысловы кацер, каб катацца па Бярэзіне і лавіць у ёй рыбу.

На тры дні работнікі гарадзкой рады кінулі пільныя гарадзкія справы і шукалі ў Інтэрнэце, дзе можна купіць тую рыбалоўную машыну. Ўрэшце знайшлі. але цана аказалася завысокай, такіх грошай у гарадзкой скарбонцы не знайшлося і «месьцічу-шляхцюку» з жалем давялося разьвітацца з мараю. Пакуль што. Вось якога старчаковага войта атрымалі бабруйчане: невука і патэнцыйнага казнакрада.

А ўсё таму, што не маюць права выбіраць сваіх прадстаўнікоў у органы кіравання. Здэцца і выбары ёсьць, але насамрэч рашэнні прымаюцца не ў Савеце, а ў зусім іншым месцы.

Наш лісток пісаў, як у Кабульшчыне выгналі з пасады старшыні сп. М.Доўгага і прызначылі сп. Крывалапа, які і дэпутатам не быў.

Такая ж ракіроўка ўлады адбылася і ў Шацілках, дзе ледзь пасьпеюць запомніць імя сьвежага старчаковага, як трэба ізноў запамінаць новае імя.

Апошні старчаковы пайшоў з пасады, а на яго месца, баяць, заступіў рэкамендаваны свяк. І нічога шацілкаўцы не зробяць, бо наагул пазбаўлены органа гарадзкога самакіравання. Шацілкі маюць і нейкі маляваны «герб». Але раз паселішча не мае гарадзкога самакіравання, то на які герб яно мае права? Ні на які!

Так што хоць і існуюць нейкія выбары, але кіравана абраныя дэпутаты мала што значаць, бо ўлада знаходзіцца ў іншым месцы і ў іншых руках.

---

## ПАДПІСКА АБАВЯЗКОВАЯ.

Пасьля вайны, каб здабыць грошы на адбудову гаспадаркі і на атамную бомбу дзяржава абавязвала працоўных падпісвацца на дзяржаўную пазыку- браць аблігацыі. Працоўныя мусілі аддаваць мо месячную палучку за год на тыя нікчэмныя паперкі. Хто не хацеў, таго змушалі міліцыяй і кулаччам. Дзяржава так і не аддала працоўным тыя пазычаныя грошы, яна яшчэ і зьберажэнні хапнула.

Хакейны Клюшка замілаваны савецкім саюзам. От і надоечы па ўстановах і школах разаслалі паперкі, дзе Ідэалагічная Інквізіцыя ўказуе, каму колькі і якіх дзяржаўных газет трэба абавязкова выпісаць.

Колісь расейскі сатырык Казьма Пруткоў з насьмешкаю раіў дзяржаве падтрымаць казённы друк паліцэйскаю ўладаю. Тое, што здавалася вартым вар”ятні стала явай тут.

## АПАМЯТАЛІСЯ.

Аўстралійскі прэм”ер-міністр публічна папрасіў прабачэння і даравання ў карэнных жыхароў Аўстраліі, абарыгенаў, за нанесеныя ў мінулым пакуты і перасьлед.

Быў час, калі белыя каланізатары не лічылі карэнных жыхароў за людзей і нават палявалі на іх, бы на зьвяроў, адбіралі дзяцей, каб іх «цывілізаваць».

Карэнных жыхарў ў Аўстраліі было небагата, мо з паўмільёна. А зараз у пяць разоў меней.

І вось белы чалавек, стомлены сваім цывілізацыйным цяжарам, урэшце, усьведаміў абарыгенаў як каштоўных грамадзян. Ну, і дзякуй Богу.

Але хто і калі павінаваціцца перад нашым народам за зьдзекі, за генацыд, за глум, учынены цягам стагоддзяў?

Найперш гэта мусяць зрабіць ляхі і маскалі.

А нашыя навукоўцы і юрысты павінны падрыхтаваць паперы, каб прад”явіць маскалям рахунак за матэрыяльныя, культурныя і людзкія страты і маральныя пакуты. Армяне не даравалі туркам разьні паўтара мільёна сваіх людзей і дамагліся таго, што ўся Еўропа ведае пра гэты генацыд. Жыды крычаць на ўвесь сьвет пра нацысцкую разьню, г. зв. халакост, і правільнаробяць, халера ясная! . Адны беларусы паліткарэктна маўчаць.Крый Божа, ўгневаць маскалёў!

Маскалі павінны прызнаць сваю віну за генацыд нашага народу і заплаціць! І не толькі нам, а і ўкраінцам.

Мікіта Хрушчоў, былы кіраўнік Украйны, прызнаваў, што ў яго рукі па локці ў крыві. У яго ўсё ж было сумленне і сьмеласьць прызнаць свой грэх. Іншыя пакуль маўчаць. Трэба змусіць іх прызнацца.

## ЗМАГАННІ

Штодня мільёны людзей ва ўсім сьвеце выходзяць на барацьбу за свае правы. І гэта не перабольшанне. Магутныя забастоўкі скаланулі ў апошні месяц Венгрыю, Грэцыю, Германію. У Венгрыі ўся нацыя, працоўныя пратэставалі супраць намераў ураду аддаць ахову здароўя і сацыяльную сферу ў рукі прыватнага капіталу. Людзі справядліва апасаліся амерыканскага варыянту, дзе чалавека лечаць, пакуль ў яго ёсьць грошы.Венграм такая перспектыва не спадабалася.

У Грэцыі ўвесь народ баставаў некалькі дзён, пратэстуючы супраць планаў ураду скараціць колькасьць пенсійных фондаў і падвысіць пенсійны ўзрост. Урад жа, маючы большасьць у парламенце, усё ж дамогся свайго, пайшоўшы супраць волі народа. Трэба меркаваць, што на наступных выбарах людзі прыпомняць гэта правячай партыі.

У Германіі баставалі чыгуначнікі, не хадзілі цягнікі. Машыністы дамагаліся лепшай аплаты працы.

Чаму ж у еўрапейскіх краінах дзе так моцныя традыцыі дэмакратыі, народу не заўсёды ўдаецца дамагчыся свайго?

А таму што тамака палітыка сталася справай грашовых мяшкоў, багацеяў, людзей, якім панятак «народ, нацыя» стаў чужым, а гэтак званая «глабалізацыя» - залатым быком.

Такая ж сьмярдзючая сітуацыя і ў Беларусі. «Нішчыя» багацеі захапілі ўладу і не падпускаюць да яе народ, а пра таго, хто нагадае, што беларусы маюць свае інтарэсы пачынаюць зьвягню наконт «нацыяналізму». Нездарма ж Хакейны Клюшка абяцае залатыя горы тут усім, але не беларусам.

## НОВЫ ВАЛАСНЫ Ў КАДАШЫ

У Кадашы - па-савецку Мікалаеўцы - паставілі новага валаснога. Гэта Васіль Аляксеенка. Ён рабіў ў тутэйшым калгасі і быў дэпутатам Кабульськага сельсавету.

Васіль непаганы чалавек, добры сусед і ўмее ладзіць з людзьмі. Ён мае двух дарослых дзяцей і мо дзьве легкавыя машыны.

Жадаем яму посьпехаў у чыннасьці.

---

## ПАТУПАЎ У ВОЙСКА

Цярэшчанка Зьміцер, які пасьля выдатнага выпуску з Мазырскага універсітэту гараваў настаўнікам патрыятычнай фізкультуры ў Шацілках. Жадаем Зьмітру прыладзіцца ля начальства і ля кухні.

Дзе харчы, там і тырчы, Дзіма. І хутней прыходзь у адпачынак, а то дзеўкі пачэзнуць.

---

**Вялікае гора** напаткала сям”ю Дайнекаў. З прамежкам у некалькі дзён памерлі маці і сын. Мы моцна спачуваем дачцы Галі і сыном Аляксандру, Валодзю і Міхайлу.

ПАЙШЛА АД НАС
добрая беларуска, добрая маці і бабуля
Дайнека Марыя Яўхімава.
Хай ёй зямля будзе пухам.

ПАЙШОЎ АД НАС
добры беларус
Дайнека Мікалай Міхайлаў
Хай яму будзе лёгкай зямля.

ПАЙШОЎ АД НАС
у веку 59 гадоў
добры беларус
Бусел Анатоль Мікалаеў.
Хай яму будзе лёгкай зямля.

Друкарня імя І. Масьціцкага 100 ас.

## БЯССЛАЎНАЯ ГАДАВІНА.

15 лютага споўнілася 19 год з дня адступлення савецкіх войскаў з Аўганістану. Дата гэта славай не пахне і мы не думалі пісаць пра яе. Але ў казённым лістку «Светлагорскія навіны» за 19 лютага зьмешчаны шалудзівы матэрыял пра аўганскую бойню. У шабасе, якому чамусьці нададзены характар сьвята, узяла ўдзел маладзічка, старшыня райсавета Галіна Філіповіч, нейкі член з Савета Рэспублікі і нейкія прадстаўнікі грамадзкасьці.

Ну, для былых салдат, якіх прымусам загналі ў чужую краіну ваяваць за чужыя інтарэсы і якім пашчасьціла вынесьці адтуль цэлымі ногі-рукі тое 15 числo, канешне ж, памятаецца прыемна. Але каб з краху рабіць сьвята, ды яшчэ пра нешта гераічнае шверкаць...

Афіцыйны каланіяльны беларускі рэжым аніяк не хоча назваць рэчы сваімі імёнамі.

Вайна, навязаная аўганскаму народу, была захопніцкай і агрэсіўнай авантурай Расеі. Беларусы- як заўсёды ў Расеі- адыгрывалі ў ёй ролю гарматнага дапаможнага мяса. Амаль 800 сыноў нашага народу паплаціліся жыццём за крамлёўскую авантуру.

У шалудзвым матэрыяле коратка паведамляецца колькі герояў было заслужана, колькі ўзнагарод -за што?- было зароблена, колькі школ збудавана, колькі мячэтаў (і гэта бязбожнікамі камуністамі!!). Нажаль, усё гэта саладжавыя хлусьлівыя казачкі.

Насамрэч савецкае войска сутыкнулася з мужным адпорам аўганскага народу. Для аўганцаў гэта была Айчынная вайна і яны баранілі сваю Айчыну ад драпежных савецкіх акупантаў гэтак жа ўпарта, як гэта рабілі нашы продкі тут, абараняючы нашу зямлю.

Савецкае войска праводзіла ў Аўганістане тактыку выпаленай зямлі, вынішчаючы людзей, дамы, скаціну, палі. З краіны было выгнана каля 3,5 мільёна чалавек, каля 27% насельніцтва. Саветы забілі каля 1.000.000 чалавек. Былі парушаны сацыяльныя сувязі, лад жыцця, разбурана эканоміка краіны. Да 15 лютага 1989 году Аўганістан стаў руінаю, якая не ліквідавана дагэтуль. Савецкая агрэсія перαтварыла краіну ў расаднік тэрарызму і ў крыніцу няўстойлівасьці. З-за Саветаў Аўганістан стаў краінай, што заміж гародніны і пшаніцы сее опіўмны мак і гэтаму нельга даць рады. Савецкі Саюз пакінуў у Аўганістане безьліч пяхотных мін, на якіх пакалечыліся дзесяткі тысяч дарослых і дзяцей. Насельніцтва ў галечы, і ўсё яшчэ не мае спакою, нягледзячы на дапамогу Штатаў і Еўропы і грашамі і войскамі.

Нашыя хлопцы, калі яны толькі не рабілі вайсковых злачынстваў, не вінаватыя. Яны самі ахвяры зьвярынага рудыментарнага камунізму. Вінаватая дзяржава. І ў гадавіну, калі «непераможная і легендарная», падцяўшы хвост брава і бясслаўна вярталася назад варта было б казаць пра ганебны ўрок гісторыі, а не рабіць з неабходнасьці цноту.

Гідка чытаць слаўныя разважанні пра тое, чаго трэба саромяцца прыстойнаму чалавеку.

А Вы, спадарыня Галіна Філіповіч, каб неяк зьменшыцьсавецкую правіну, павінны былі б заклікаць насельніцва сабраць сродкі хоць бы на адну школку ў Аўганістане. Каб зьнядоленыя тамтэйшыя дзеці змаглі навучыцца грамаце.

19 год таму пабіты і пераможаны савецкі камунізм бясслаўна валачыў з Аўганістану свой скрываўлены хвост.

Да краху камунізму заставаліся два гады і дзевяць месяцаў. Аўганістан адпомсьціў!

Але замарожаная ў мінуўшчыне беларуская ўлада так і не вывучыла аўганскі ўрок. Раз-пораз беларускі дыктатар цьвенькае, што Беларусь -шчыт Расеі, што падмяваецца не не прапусьціць натаўскія танкі на Маскву. Ён гатовы згнаіць нас, абы дагадзіць татара-мангольскай імперыі.

Шацілкаўскія марыянеткі цьвенькаюць, падтакваюць дыктатару, дурачы моладзь і труячы мазгі.

---

## 70ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ

**19** сакавіка 2008 году аўстрыйцы шырока адзначылі 70годдзе «брацкага ўзьяднання» Аўстрыі і Германіі. Пасьля брутальнага націску на аўстрыйскі ўрад Гітлер «інтэграваў» гэтую краіну да Германіі, правёўшы «рэферэндум». Нацысцкія верхаводы значна пабагацелі, захапіўшы сабе аўстрыйскія заводы, фабрыкі, дзяржаўныя грошы, золата. Гестапа стала valадаром Аўстрыі і пачало паляванне на аўстрыйскіх жыдоў, на ўсіх незадаволеных.

Пазьней Гітлер павалок аўстрыйскіх хлопцаў на сусьветную вайну.

Праз 70 год аўстрыйцы з жахам ўспамінаюць і «інтэграцыю» і ейныя выгоды.

Сёння маленькая Аўстрыя- ейны памер роўны дзьвюм Гомельскім абласьцям- квітнее і жыве ў сваё задавальненне. Аўстрыя - нейтральная дзяржава, нічый не шчыт і не зьбіраецца ім быць.

Беларусы, бярыце прыклад з Аўстрыі, а не з драпежнай Расеі.